*З першых вуснаў*

# У прыстойным грамадстве толькі высокамаральныя людзі могуць мець дачыненне да ўлады

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— Журналіст павінен баяцца аднаго — хлусні. Я ж адказваю за кожнае слова. У мяне, дзякаваць Богу, добры слых і ўчэпістая памяць.**

*Каб высветліць ісціну, журналісцкае расследаванне, як і следчае, прадугледжвае шэраг самых розных крокаў. Некалькі з іх я ўжо зрабіў. Хто, акрамя пілотаў, адказвау за бяспечнасць палёту, а гэта значыць, і за загрузку самалёта? Вядома ж, начальнік аддзела аховы КДБ палкоўнік Васіль Якаўлевіч Рабашапка, які тады лятаў у Кітай. З ім я сустрэўся і задаў тое ж пытанне, што і С.С.Шушкевічу. Ён здзівіўся і адказаў коратка: "Ніякіх гарнітураў з Кітая ніхто не дастаўляў. Калі б на борце самалёта з'явілася хоць адна ўпакоўка, я пра гэта ведаў бы".*

*Здавалася б, пераканаўча. Але я на гэтым не спыніўся. Знайшоў чалавека, які бываў у гасцях у Шушкевіча. Калі той пачуў маё пытанне, выпаліў: "Плюнь у вочы таму, хто распускае плёткі пра нейкі там гарнітур. Вось калекцыяніраваннем ігральных карт ён сапраўды займаецца".*

*Што ж, можа, і сапраўды не трэба марнаваць час на далейшае расследаванне нейкіх злых чутак? А таму вернемся да нашай гутаркі з С.Шушкевічам.*

**— Станіслаў Станіслававіч, а як Вы адносіцеся да таго, што знаходзяцца людзі, якія адкрыта заяўляюць: ужо сёння добрую трэць дэпутацкага корпусу можна закоўваць у кайданы і накіроўваць далёка ад роднай хаты? Як Вы лічыце, ёсць падставы для такіх страшэнных меркаванняў? Ці гэта ўсё робіцца з тым, каб дыскрэдытаваць парламентарыяў?**

— Я хацеў бы на ваша пытанне адказаць наступным чынам.

Дэпутаты працуюць нібыта пад павелічальным шклом. Усе бачаць, што яны робяць і чым займаюцца. І вельмі проста лавіць хібы, памылкі. Я на сённяшні дзень, за выключэннем некалькіх выпадкаў, не меў ніякіх матэрыялаў, якія б дазвалялі гаварыць аб тым, што можна ўзбудзіць крымінальную справу альбо можна лічыць пэўны дэпутацкі ўчынак амаральным. Я гавару пра дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Безумоўна, некаторыя падзеі-факты ўнеслі сумненні ў маё жыццё, і я бачу, што асобныя дэпутаты паступілі не так, як належыць паступаць дэпутатам. Але не было падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы. Былі падставы для заўваг з пункту гледжання этыкі. І ўсё ж, прабачце, калі на 345 чалавек такое здарылася толькі з некалькімі, ці ж можна гаварыць аб нейкай амаральнасці дэпутацкага корпусу? І я проста не мог бы працаваць Старшынёй, калі б Вярхоўны Савет быў у такой ступені амаральным.

Іншая справа — палітычныя погляды. Але ж дэпутат мае права мець катэгарычна іншыя палітычныя погляды, чым я. І вось тут, я вам скажу, складанасці ёсць, тут адрозненне катэгарычнае.

**— Калі Вы падышлі да работы парламента, то ў мяне ўзнікла такое пытанне. Некаторыя, у тым ліку і шэраг аўтараў "Народнай газеты", лічаць, што сённяшні парламент, як і сённяшні ўрад, не здольны вырашаць тыя задачы, якія ставіць жыццё. Падзеі ў Расіі тым больш паказваюць, што дэпутаты, асабліва наменклатурнага блоку, як агню, баяцца выбараў, гатовы на ўсё, каб захаваць, як кажуць, свае крэслы. Як прымусіць наш парламент, які ў другі раз хавае патрабаванне аб рэферэндуме, пайсці на выбары? Якая Ваша думка на гэты конт?**

— Ведаеце што, я б не хацеў тут праводзіць нейкія паралелі з іншымі краінамі, калі мы прэтэндуем на нашу беларускую самабытнасць. Давайце гаварыць толькі пра нас. Гэта вельмі проста: калі табе не падабаецца тое, што робіць нехта іншы, абвінаваціць яго ў няздольнасці. З такім жа правам можна сказаць, што я як кіраўнік парламента няздольны адкрыць лепшыя якасці нашых парламентарыяў. Я ўжо не адзін раз і не ў адным інтэрв'ю гаварыў: давайце лепш глядзець на вынікі канкрэтнай работы. Я прыводзіў прыклады таго заканадаўства, якое мы прынялі і якім можа ганарыцца любы парламент.

Але цяпер давайце вернемся да справы аб выбарах. Наш парламент першым у адрозненне ад парламентаў Украіны, Расіі (падкрэсліваю — першым!), заявіў аб тым, што дзеля канстытуцыйных пераўтварэнняў у Рэспубліцы Беларусь будуць праведзены датэрміновыя выбары парламента гэтага склікання.

**— І Вы верыце ў тое, што выбары адбудуцца датэрмінова?**

— Пачакайце-пачакайце... Давайце не будзем адносіцца да заявы нашага парламента як да некаторых дакументаў СНД. Падпісалі пагадненні, а яны, маўляў, не працуюць. А чаму не працуюць? Таму, што ў гэтым накірунку належным чынам не працавалі ўрады. Вось і тут: ёсць заява —, значыць, трэба, каб і Прэзідыум Вярхоўнага Савета, і Старшыня, і камісіі зрабілі ўсё, каб задуманая справа стала рэальнасцю.

Адказваю на ваша пытанне больш канкрэтна. Старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Канстанцінавіч Леўчык атрымаў заданне распрацаваць найбольш просты варыянт на той выпадак, калі мы будзем мець складанасці з прыняццем Канстытуцыі. Зроблена даручэнне распрацаваць найпрасцейшы варыянт, які з'яўляецца паступовым пераходам да новай выбарчай сістэмы. Гэта значыць, з захаваннем мажарытарнасці, калі ў аснове ляжыць падыход: адзін чалавек — адзін голас. Грамадскія арганізацыі, грамадзяне, калектывы прадпрыемстваў вылучаюць сваіх кандыдатаў, ніякіх антыдэмакратычных захадаў. Трэба толькі ўнесці некаторыя папраўкі ў існуючы закон і ў дзеючую Канстытуцыю. Безумоўна, гэта рэзервовы варыянт. Я кажу так: павінна быць глыбокаэшаланіраваная абарона. Альбо мы прымаем Канстытуцыю — тады ўсё проста (на падставе новай Канстытуцыі — новы выбарчы закон і ўсё), альбо, калі ёсць цяжкасці, дзейнічаем паэтапна на аснове існуючай Канстытуцыі і паправак да яе.

Сёння выйшаў пасля хваробы на працу Вячаслаў Мікалаевіч Кузняцоў і я яго папрасіў узяць пад асабісты кантроль падрыхтоўку гэтага пытання да новай сесіі. І таму, заўважце, калі ў суседніх краінах народы прымушаюць парламент ісці на зрух, то ў нас наадварот: парламент гэты зрух зрабіў самастойна. І таму... ўстрымайцеся ад абвінавачванняў у няздольнасці.

**— Станіслаў Станіслававіч, Вы вось сказалі, што, можа, сапраўды трэба ўстрымацца ад прамых абвінавачванняў парламентарыяў. А ці ведаеце Вы, што некалькі дзён таму наш прэм'ер, выступаючы на Мінскім трактарным заводзе, абвінаваціў Вас у тым, што сёння Вы штурхаеце нашу рэспубліку, наша грамадства на польскі варыянт, які можа закончыцца для нас, як кажуць, плачэўным вынікам.**

— Журналісцкая інтэрпрэтацыя не заўсёды мяне задавальняе. Я перш за ўсё хачу сказаць вам тое, што польскі варыянт даў такія станоўчыя вынікі, што, мне здаецца, над ім трэба задумацца. Але справа вось у чым: каб рэалізаваць польскі варыянт, трэба ва ўрадзе мець такую фігуру, як Бальцэровіч.

**— Мне здаецца, мы ўпусцілі час для польскага варыянта...**

— Значыць, цяпер трэба дзейнічаць з улікам упушчанага часу. Што да шокавай тэрапіі, то ў такой знявечанай эканоміцы, як наша, зараз ісці на гэты крок будзе проста глупствам. Але, на жаль, ва ўрадзе нашай рэспублікі Бальцэровіча я не бачу... Там многа людзей з прэтэнзіямі, але ў іх няма паслядоўнай лініі. Я думаю, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета не да канца выкарыстоўваў свае функцыі катэгарычнай пастаноўкі пытання перад урадам і своечасова не патрабаваў адпаведных справаздач. І вось калі мы гэтым заняліся 15 верасня, то я на сённяшні дзень бачу значныя зрухі. Калі на красавіцкай нарадзе мы пераконвалі старшыню Камітэта па нафце ў тым, што трэба па-іншаму ставіцца да камерцыйных структур, што трэба ствараць для іх умовы хоць бы такія, як у Прыбалтыцы, у адказ сцвярджалася, што мы і так ствараем умовы для нармальнага бізнесу і яны могуць у нас мець прыбытак і могуць плённа працаваць. Але ж разумнейшымі атрымаліся прадстаўнікі прадпрымальнікаў. Супраць сябе яны не сталі працаваць. Свае позіркі яны скіравалі на Прыбалтыку, дзе эфектыўнасць іх бізнесу больш высокая, бо рэальныя падаткі — меншыя. І вось вядомы кантраст. Сёння я звязаўся, дарэчы, з кіраўнікамі амаль усіх нашых абласцей. І прыемна, што ў апошнія дні адбыліся катэгарычныя зрухі.

**— Не ведаю, Станіслаў Станіслававіч, пра якія катэгарычныя зрухі Вы сцвярджаеце, але сёння я размаўляў з дырэктарам саўгаса "Бараўляны" Мінскага раёна Якавам Парашчанкам. У яго на прыколе амаль уся тэхніка. Ды ці толькі ў саўгасе такая сітуацыя! У гаражы выдавецтва "Беларускі Дом друку" стаяць машыны без паліва. Амаль кожны дзень мяне "дастаюць" выбаршчыкі Пінска — на прыколе, здараецца, стаяць нават аўтамабілі "хуткай дапамогі". Патрэбна больш сурова спытаць з тых, хто заваліў адказную справу.**

— За некалькі дзён вырашыць поўнасцю праблему сапраўды цяжка. Але, падкрэсліваю, зрухі ёсць. Калі гаварыць пра патрабаванне наконт прыняцця больш суровых захадаў, то самае страшнае, самы агідны шлях, па якім можна пайсці, — гэта помста за памылкі. Многія лічаць, што сітуацыя з дэфіцытам нафтапрадуктаў створана наўмысна. Я гэтага не думаю. Я думаю, што проста рыначнае мысленне ў нашым урадзе падаўляецца (дарэчы, як і ў Вярхоўным Савеце). Мне здаецца, што новы варыянт, які звязаны з датэрміновымі выбарамі, дазваляе гэту работу зрабіць нармальна, а карэкціроўкі ва ўрадзе можна зрабіць на бліжэйшай сесіі.

**— Мне таксама здаецца, што карэкціроўкі ва ўрадзе быць павінны.**

— Хацелася б, каб гэта адбылося. І каб гэтыя прапановы ўнёс сам урад, каб ён сам усвядоміў складанасць усёй сітуацыі, сам высветліў усе памылкі і зрабіў адпаведныя папраўкі.

**— Што і казаць, не простая сітуацыя ў эканоміцы рэспублікі. А тут яшчэ такія здарэнні. Ужо колькі дзён уся Беларусь устрывожана тым, што адбылося ў Гродне. Пры гэтым факты, якія ўсплываюць пасля забойства старшыні аблвыканкама Д.Арцымені, мне здаецца, яскрава паказваюць на крымінальны след. Між тым на "тайной вечере", пра якую ўжо ведае шырокая грамадскасць, было вырашана аб вылучэнні Арцымені на Ваша месца. Вам, як грамадзяніну, не страшна ад самога факта: на якія сілы пэўныя колы робяць стаўку?**

**Дарэчы, сам факт з "тайной вечерей", на якой, як выцякае з Вашага інтэрв'ю агенцтву "Інтэрфакс", дзяліліся пасады спікера і прэзідэнта і развучваліся ролі будучых ўладароў, вельмі трапна суадносіцца са словамі прэм'ера: "Хтосьці, відаць, жадае, каб Кебіч прыняў бой, апусціўся да кухоннай сваркі са Старшынёй Вярхоўнага Савета. Не, я на гэта не пайду. Патрэбна думаць пра народ, пра ўмацаванне міру ў Беларусі..."**

— Пытанне вялікае, пачнём яго з канца. Словы і фактычныя дзеянні, кажаце? Цяжкае пытанне. Але Бог суддзя гэтай "кухоннай" камедыі, як і яе прапагандысцкаму прыкрыццю. Толькі не трэба ўводзіць у зман простых людзей і рабіць сумленныя твары пры неахайнай гульні. На тайных палітычных кухнях я не быў, пальму першынства не дзяліў, як і не кідаў нікому пальчатку, называючы яе ружай.

І далей. Ведаеце, звычайна тыя, хто вядзе следства, не інфармуюць аб нейкіх папярэдніх выніках, фактах, якія да канчатковага разгляду справы павінны трымацца ў тайне. Сёння ж аб некаторых абставінах, звязаных з забойствам Арцымені, гавораць не толькі ў Вярхоўным Савеце, але і ў самых аддаленых вёсках. Я не ведаю, адкуль пайшла інфармацыя, але хачу сказаць, што зараз я маю маральнае права і не зраблю ніякага парушэння, калі пэўныя звесткі на гэтае пытанне выкладу.

Але давайце па парадку. Першае. Я быў бы крывадушным чалавекам, калі б сёння ліў нейкую гразь на нябожчыка. Я быў на Гродзеншчыне, бачыў, якіх вялікіх поспехаў яна дасягнула. Я бачыў, што ёсць суровы гаспадар, а ў многіх адносінах нават бязлітасны, але вопытны кіраўнік. І мяняць цяпер свае погляды толькі з-за таго, што ён разглядаўся як чалавек, якога пэўныя сілы "прочили" на месца Старшыні Вярхоўнага Савета, я не збіраюся. Я не ведаю, да якіх канчатковых вынікаў прыйдзе следства, а таму не хачу рабіць вывадаў на падставе той інфармацыі, якая прасачылася ў друк і гуляе па ўсёй рэспубліцы.

Другая пазіцыя. Сапраўды, прымушае задумацца тое, што звязана з сейфам у службовым кабінеце Д.Арцымені. Я зараз паспрабую падлічыць, колькі мне патрэбна гадоў, каб у сённяшняй нашай сітуацыі Старшыні Вярхоўнага Савета зарабіць такую суму грошай, якая была... Пералічым па камерцыйнаму курсу замежную валюту, і атрымліваецца, што калі ў мяне будзе захоўвацца сённяшні аклад і сённяшняя сітуацыя, то трэба працаваць трыццаць гадоў на пасадзе кіраўніка парламента. Гэта мяне сапраўды здзіўляе і...

Мяне б не здзівіла, каб гэта было знойдзена ў службовым кабінеце чалавека, які займаўся камерцыйнай дзейнасцю, таму што, ведаеце, такое можа быць, на жаль, у адпаведнасці з нашым недасканалым заканадаўствам. А на дзяржаўнай пасадзе, калі гэта, напрыклад, было магчыма праз камерцыю, — гэта, прабачце, не зусім правільна. Але ад чаго б я хацеў папрасіць устрымацца? Ад канчатковых вывадаў. Думаю, што адказы на многія пытанні будуць знойдзены пасля заканчэння следства і лічу правакацыйнымі пытанні з боку некаторых журналістаў наконт таго, чаму я быў на пахаванні і гэтак далей. Я быў на пахаванні народнага дэпутата, гаспадара, які паказаў, якой можа быць Гродзеншчына (дарэчы, у адрозненне ад некаторых іншых абласцей). І таму, каб я не быў на пахаванні, трэба было б мне задаць пытанне: як я мог дазволіць сабе як Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь не быць на пахаванні кіраўніка вобласці, народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь?

**— Што датычыцца здарэння ў Гродне, то ўсе кропкі над "і" сапраўды расставіць час. Давайце лепш вернемся да нашых надзённых эканамічных праблем. Вы неаднаразова віталі адзіную рублёвую зону. Але ж агульнавядома, што асноўнымі атрыбутамі незалежнай дзяржавы з'яўляюцца ўласныя грошы і свая армія. Незалежных краін, як Вы ведаеце, без сваіх грошай не бывае. Як Вы на гэтую праблему глядзіце?**

— Я бачу шлях да залежнасці і праз свае грошы. Паглядзіце на поўдзень. Я маю на ўвазе Украіну, да якой я стаўлюся з найвялікшай павагай, як, дарэчы, і да яе кіраўніцтва. Але заўважце, што там адбылося пасля ўвядзення ўласных грошай. Іх можна ўводзіць, прааналізаваўшы ўсе варыянты. І калі ўводзіць уласныя грошы дзеля таго, каб яны змарнелі, гэта будзе злачынства супраць незалежнасці большае, чым іншы крок. На жаль, калі б я быў такім дылетантам, якім быў яшчэ тры гады назад у адносінах да грашовай сістэмы, я мог бы сёння станоўча разглядаць патрыятызм многіх нашых шчырых беларусаў, што без уласных грошай не можа быць дзяржаўнасці. Цяпер жа я вымушаны сказаць, што, каб прыйсці да дзяржаўнасці з уласнымі грашыма, нам неабходна, мне здаецца, дзеля дабрабыту беларускага народа ўступіць у рублёвую зону новага тыпу. І калі мы будзем такімі разумнымі, калі наша фінансавае становішча стане моцным у рублёвай зоне, можа быць паўстаўлена пытанне, каб перайсці на ўласныя грошы. І гэта, заўважу, не пярэчыць ніякім пагадненням па СНД і тым пагадненням, якія цяпер падпісваюцца. Проста ёсць разлікі, якія сцвярджаюць, што гэта не стрымліваючы фактар на сённяшні дзень.

*Станіслаў Станіслававіч на нейкі момант змаўкае, а потым дадае:*

— Мы перажываем не простую сітуацыю ў плане станаўлення фінансавай сістэмы. І без жорсткіх мер па абмежаванню фінансавых выдаткаў, па абмежаванню бюджэту, разумных мер па крэдытных стаўках не абысціся. Дарэчы, гэта патрэбна, нягледзячы на тое, ці пойдзем мы ў рублёвую зону, ці не пойдзем...

**— Станіслаў Станіслававіч, усе бачаць, якая моцная інтэлектуальная каманда ў Ельцына. Вы не прыслухоўваецеся да падказак і не ствараеце сваю такую ж моцную каманду?**

— Іосіф Паўлавіч, глядзіце, у чым тут справа. Ельцына ўсенародна абралі прэзідэнтам Расіі. Ён можа падбіраць у сваю адміністрацыю тых людзей, якіх ён жадае бачыць, ён прызначае кіраўнікоў урадавых структур, і ў шэрагу выпадкаў нічога яму не перашкаджае гэта рабіць, акрамя агульнага ляманту альбо акрамя тых пазіцый, якія трэба было ўзгадняць з Вярхоўным Саветам. А цяпер прачытайце Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Прачытайце...

**— Сапраўды, у Вас іншыя правы...**

— Як я магу стварыць каманду, калі я асабіста нікога не прызначаю і нікога не пазбаўляю гэтага права. Я займаю пасаду, якую, калі гаварыць шчыра, займалі некалі нашы паважаныя народныя пісьменнікі. І яны да мяне цяпер звяртаюцца з просьбамі. Я ім кажу: вы паглядзіце, ці ж змянілася Канстытуцыя ў адносінах да пасады Старшыні Вярхоўнага Савета? Змянілася толькі тое, што ён стаў Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Пойдзем далей... Што мог зрабіць раней Старшыня Вярхоўнага Савета і Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета? Ён нічога не мог зрабіць і нічога не можа зрабіць, таму што ў нас старая Канстытуцыя і мы яе хочам мяняць. Калі гаварыць пра каманду толькі з дэпутатаў, то, на жаль, аднадумства тут шырокага, як Вы бачыце, няма. Што да апарату і Сакратарыята Вярхоўнага Савета, то тут мы робім лагічныя, законныя і паступовыя крокі і я думаю, што Вы як народны дэпутат з'яўляецеся сведкам паляпшэння работы гэтых структур.

**— Дык што, Вы наогул не маеце сваёй каманды?**

— Я маю каманду і скажу адкрыта: яе інтэлектуальны патэнцыял вельмі і вельмі высокі. Гэта добрыя дарадцы, людзі, якія фактычна працуюць альбо на грамадскіх падставах, альбо на кантрактнай аснове, калі рыхтуецца аналітычны агляд па пэўных пытаннях. Вы ведаеце, гэтай камандзе можна пазайздросціць...

**— Таму я думаю, што ў бліжэйшы час ад гэтай каманды і ад Вас асабіста будуць пэўныя цікавыя ініцыятывы?**

— Прабачце, яны ўжо ёсць. Іншая справа, што я магу выходзіць з тымі ініцыятывамі, якія маюць пэўную надзею на падтрымку Вярхоўнага Савета. І тут трэба ісці на разумны кампраміс.

**— Станіслаў Станіслававіч, у Беларусі, як нідзе, актывізаваліся антыдзяржаўныя сілы, якія адкрыта і беспакарана выступаюць супраць яе незалежнасці. Іх хапае і сярод урадавых структур, і сярод дэпутацкага корпусу, і сярод работнікаў друку, і сярод грамадскіх фарміраванняў. Ці не занадта спакойна Вы назіраеце за гэтым?**

— Адказ на папярэдняе пытанне фактычна быў адказам і на гэтае. Я не магу дзейнічаць супраць іх незаконнымі метадамі. Мне здаецца, што ў большасці сваёй, у пераважнай большасці гэта альбо тыя, хто не быў абраны дэпутатамі, альбо тыя, хто, будучы абраным дэпутатам, прэтэндуе на больш высокую пасаду, чым ім ахвяраваў Вярхоўны Савет. Эксплуатуючы лозунг антыдзяржаўнасці, яны забыліся, што выступаюць несумленна супраць суверэннасці Беларусі. Мне здаецца, што ў гэтых людзей няма шчырага жадання служыць свайму народу, яны служаць сабе...

**— Не ведаю, згодны Вы з гэтым ці не, але дэмакраты лічаць, што ў іх ёсць пэўныя падставы думаць: Мінск пацвярджае сваю ранейшую рэпутацыю Вандэі. Менавіта яго аблюбавалі чырвона-карычневыя. Вы з Ельцыным і Краўчуком зрабілі патрэбны і мужны крок у Віскулях. Ці не настаў час Вам зноў аб'ядначца, каб нанесці рашучы ўдар па сілах мінуўшчыны?**

— Ваша прапанова ў нейкай ступені носіць нелегітымны характар. Я лічу, што з кім бы мы ні аб'ядналіся для вырашэння ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, мы павінны абапірацца толькі на нашы ўнутраныя структуры і сілы. Замежныя структуры могуць толькі выказаць свае адносіны. Я ведаю, як ставіцца, напрыклад, прэзідэнт Расіі да пэўных нашых спраў, але ж яны не ўмешваюцца. У той жа час вы ведаеце, што я як чалавек і як Старшыня Вярхоўнага Савета прыхільнік паступовых, паэтапных канстытуцыйных рэформ, праводзімых прэзідэнтам Ельцыным. Але ж я не дапамагаю яму іх праводзіць.

**— Я думаю, што ён прыхільнік Вашых дзеянняў на Беларусі?**

— Мне прыемна гэта адчуваць, мяркую, што гэта так.

**— Станіслаў Станіслававіч, а вось такое пытанне. Як мне здаецца, мы ўпрытык падышлі да стварэння кааліцыйнага кампетэнтнага ўрада. Гэта сцвярджаюць і тыя публікацыі, якія з'явіліся ў апошні час на старонках "Народнай газеты" і іншых дэмакратычных выданняў, і заявы прафсаюзаў, іншых грамадскіх, а таксама палітычных арганізацый. Як Вы думаеце, ці пагодзяцца дэпутаты з тым, каб сапраўды, як кажуць, памяняць коней на пераправе?..**

— Пры нашых неўсталяваўшыхся палітычных рухах я б хацеў, каб ва ўрад уваходзілі людзі, для якіх найдаражэйшае — гэта беларуская дзяржаўнасць, і каб ва ўрад не ішлі тыя, хто не ведае, што рабіць. Толькі ў такім кантэксце можна разглядаць пытанне аб кааліцыйным урадзе. Тут з палітычнымі падыходамі ёсць шмат складанасцей. Калі гэта будзе кааліцыя тых, хто ведае, як зрабіць справу лепш, — я прыхільнік такога ўрада. І тут дадам: мне здаецца, што Беларусь легітымным шляхам здольная выйсці з гэтага цяжкага становішча. У мяне надзея на тыя датэрміновыя выбары, якія аб'явіў сам Вярхоўны Савет, і той урад, які будзе створаны Вярхоўным Саветам. А паляпшэнне ў гэтым урадзе можа быць. Я чакаю адпаведных захадаў ад прэм'ер-міністра, таму што гэта ў першую чаргу яго справа...

**— Станіслаў Станіслававіч, хацелася б спытаць у Вас яшчэ вось пра што. Як паведамлялі "Магілёўскія ведамасці", на нарадзе старшынь райвыканкамаў і праваахоўных органаў Мікалай Грынёў і Аляксандр Лукашэнка заявілі: "...Имеются сенсационные факты... документы, которые во время визита Шушкевича в США должны были быть им подписаны... Беларусь должна стать плацдармом против России и в связи с этим в нашей республике планировалось размещение 150 сотрудников ЦРУ". Як Вы адносіцеся да гэтых "сенсацыйных" выкрыванняў?**

— Па-першае, думаю, што службовая асоба такога рангу, як старшыня Магілёўскага аблсавета Мікалай Грынёў, ведае, што расследаванне па фактах, звязаных з нацыянальнай бяспекай, павінна весці КДБ рэспублікі. Туды і трэба звяртацца за тлумачэннямі і запытамі.

Па-другое. Азнаёміўшыся з апошнімі заявамі паважанага спадара Лукашэнкі, які "дамовіўся" з Русланам Хасбулатавым і "выбіў" крэдыты для Беларусі, "забяспечыў" рэспубліку нафтай і газам, утварыў з Расіяй адзіную дзяржаву, можна лёгка паверыць і пра дамоўленасць аб размяшчэнні толькі ў Мінску 150 супрацоўнікаў ЦРУ. Глупства ўсё гэта...

**— Што ж, Станіслаў Станіслававіч, можа, на гэтым і закончым наш адкрыты дыялог? Дзякуй Вам за шчырасць, поспехаў у далейшай працы!**

— Дзякуй і Вам. Поспехаў усяму калектыву "Народнай газеты"!

*Вячаслаў КЕБІЧ:*

## Неабходна навесці парадак у гандлі гарэлкай

У апошні час у Савет Міністраў, у мясцовыя органы ўлады з боку насельніцтва паступае ўсё большая колькасць скаргаў на адсутнасць у сістэме дзяржгандлю лікёра-гарэлачных вырабаў. Людзі справядліва абураюцца тым, што месяцамі не могуць атаварыць свае талоны на гарэлку. Выклікае іх абурэнне і бяздзейнасць праваахоўных органаў, якія скрозь пальцы глядзяць на шматлікія парушэнні ўведзеных з 1 верасня новых правіл гандлю спіртнымі напіткамі, на пастаянныя ўцечкі "налева" ў камерцыйныя структуры прадукцыі лікёра-гарэлачных заводаў. Па сённяшні дзень, нягледзячы на строгую забарону, гарэлкай з-пад крыса працягваюць гандляваць утрая даражэй у шматлікіх камерцыйных ларках. А ў некаторых месцах, напрыклад у горадзе Браславе, наваяўленыя камерсанты прадаюць яе зусім адкрыта, дэманструючы тым самым поўнае грэбаванне рашэннем урада.

Як паведамілі ў службе інфармацыі Савета Міністраў, улічваючы вастрыню сітуацыі, прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч пачаў 27 верасня свой рабочы дзень з разгляду гэтай праблемы. Заслуханы тлумачэнні па гэтаму пытанню віцэ-прэм'ера А.Бокача, старшыні Мінгарсавета А.Герасіменкі, кіраўнікоў мінскага лікёра-гарэлачнага завода "Крышталь". Кіраўніком урада дадзены неабходныя ўказанні па аператыўнаму выпраўленню ўзнікшага становішча.

На думку Вячаслава Кебіча, талонная сістэма гандлю гарэлкай сябе зжыла і ў бліжэйшы час яе трэба адмяніць, аднак для гэтага неабходна ўзмацніць кантроль за вытворчасцю лікёра-гарэлачнай прадукцыі, яе пастаўкамі ў сістэму дзяржаўнага гандлю і рэалізацыяй. Трэба таксама больш строга спаганяць з парушальнікаў правіл гандлю спіртнымі напіткамі.

У бліжэйшы час Саветам Міністраў будуць прыняты адпаведныя рашэнні.

**Белінфарм.**

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 640*

## Аб устанаўленні новага размеру мінімальнай заработнай платы і асобных сацыяльных выплат

У сувязі з ростам цэн на асобныя тавары і тарыфаў на паслугі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

1. Устанавіць з 1 кастрычніка 1993 г. мінімальную заработную плату ў размеры 15000 рублёў у месяц, а тарыфную стаўку першага разраду — 17000 рублёў.

2. Пры пераразліку пенсій з 1 кастрычніка 1993 г. і карэкціроўцы заработку пры назначэнні пенсій у адпаведнасці з Палажэннем аб парадку пераразліку пенсій і карэкціроўцы заработку, што вызначаецца пры назначэнні пенсій, зацверджаным пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 7 кастрычніка 1992 г. нумар 606 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., нумар 28, арт. 523), прымяняць замест сярэднямесячнай заработнай платы рабочых і служачых за II квартал 1993 г. сярэднюю заработную плату рабочых і служачых за жнівень 1993 г.

3. Міністэрствам і ведамствам, выканкамам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, забяспечыць пераразлік ставак заработнай платы і акладаў работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай гэтай пастановай стаўкай першага разраду і каэфіцыентамі адзінай тарыфнай сеткі.

4. Міністэрству сацыяльнага забеспячэння, Міністэрству абароны, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі і Галоўнаму ўпраўленню пагранічных войск пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь з 1 кастрычніка 1993 г. правесці пераразлік пенсій зыходзячы з новага размеру мінімальнай заработнай платы. Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва сумесна з Міністэрствам фінансаў перагледзець размеры дапамог, а кіраўнікам вышэйшых, сярэдніх і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў — размеры дзяржаўных стыпендый.

5. Устанавіць, што назначаныя да 1 кастрычніка 1993 г. дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі беспрацоўным, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку, павышаюць кваліфікацыю па накіраванню дзяржаўнай службы занятасці, павялічваюцца з указанай даты ў 1,7 раза.

6. Дзяржкамстату забяспечыць разлік індэкса цэн, які характарызаваў бы змяненне кошту спажывецкай карзіны ў адносінах да цэн кастрычніка 1993 г., і яго публікацыю ў перыядычным друку.

7. Міністэрству фінансаў сумесна з Дзяржэканампланам, Дзяржаўным камітэтам па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам накіраваць грашовыя рэсурсы, атрыманыя ў выніку змяншэння дзяржаўных датацый і субсідый, а таксама пераарыентацыі выдзяляемых таваравытворцам дзяржаўных сродкаў на прамыя выплаты насельніцтву згодна з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 жніўня 1993 г. N 579 "Аб мерах па павелічэнню паступлення ў Рэспубліку Беларусь валюты дзяржаў, якія раней уваходзілі ў СССР, рацыянальнаму яе выкарыстанню, умацаванню і падтрыманню плацежнага балансу" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1993 г., N 24, арт. 477), у мэтавыя фонды, створаныя ў адпаведнасці з пунктам 13 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 снежня 1991 г. N 492 "Аб мерах па расшырэнню натуральнай дапамогі маламаёмным слаям насельніцтва" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1991 г., нумар 36, арт. 453), на аказанне дапамогі маламаёмным грамадзянам.

8. Рэкамендаваць мясцовым Саветам народных дэпутатаў вызваліць з 1 кастрычніка 1993 г. ад плацяжоў за камунальныя паслугі (водаправод, каналізацыя, газ, ацяпленне, гарачае водазабеспячэнне, электраэнергія) сем'і (адзінокіх грамадзян), якія адносяцца да маламаёмных груп насельніцтва ў адпаведнасці з пастановай Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва ад 22 верасня 1993 г. N 78 "Аб арганізацыі выяўлення і ўліку маламаёмных грамадзян і аказанні ім дапамогі".

9. Прызнаць страціўшымі сілу пункты 1, 7—9 і 12, абзац трэці пункта 2 у частцы ўстанаўлення заработнай платы работнікаў з тарыфным каэфіцыентам 1,0 у размеры 13200 рублёў у месяц пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 ліпеня 1993 г. N 497 "Аб чарговых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1993 г., N 21, арт. 412), а таксама пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 жніўня 1993 г. N 570 "Аб чарговых мерах па сацыяльнай абароне пенсіянераў" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1993 г., N 24, арт. 468) і ад 21 верасня 1993 г. N 633 "Аб мерах па сацыяльнай абароне асобных катэгорый пенсіянераў".

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.КАЎКО.**

24 верасня 1993 г.
г.Мінск.

*Не все так плохо*

### Это сладкое слово — свекла

**В хозяйствах республики приступили к массовой уборке сахарной свеклы.**

Как сообщили корреспонденту РИДа в Минсельхозпроде, на приемные пункты уже сдано около 60 тысяч тонн сырья. Всего свекловодам Беларуси в нынешнем году предстоит убрать сахарные корни более чем с 55 тысяч гектаров, что на 5 тысяч гектаров больше прошлогоднего. Радует урожайность — 350—360 центнеров с гектара. Перерабатывающие заводы начали производство сладкой продукции.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

### "Запантуют" в хозяйстве

**Как стало известно корреспонденту РИДа, в колхозе "Сергеевичи" Пуховичского района всерьез решили заняться... оленеводством.**

В хозяйстве создали специальную ферму, а из Хотимского района завезли первую партию пятнистых животных — 60 голов. В ближайшие годы численность оленей должна увеличиться в два-три раза. Это позволит хозяйству заниматься поставкой пантов как для медицинских предприятий республики, так и за рубеж.

**Николай ГРИГОРОВИЧ.**

*Футбол*

## Все на "Динамо"! Невзирая на цены?

**Павел ЯКУБОВИЧ**

Сегодня в 19 часов на минском "Динамо" состоится ответная встреча в рамках розыгрыша Кубка европейских чемпионов с бременским "Вердером". Счет первой игры 5:2 в пользу наших сегодняшних гостей, но значит ли, что динамовцам и всем нам не на что надеяться?

"Вердер", конечно, сильная команда, и его игроки могут если не все, то очень многое. Защитник Боровка, нападающие Руфер, Хобш и Херцог способны выдавить кровь из камня. Но тотальный футбол, который показывает "Вердер", безупречен лишь тогда, если вся команда находится в хорошем настроении. К счастью для нас, так бывает не всегда. Дело в том, что у клуба начался некоторый спад, и сразу же зачесалась "ахиллесова пята" команды — вратарь Гунделах, который заставляет нервничать свою защиту, и та играет с повернутой назад головой. Короче говоря, если соперник не выходит против "Вердера" на цыпочках, а способен навязать ему "обмен ударами", то прошлогодний чемпион Германии бывает не более грозен, чем снеговик на горячей газовой плите. Во всяком случае в чемпионате бундеслиги команда недавно побывала в нескольких чувствительных нокаутах и ее название фанаты произносят без особого почтения...

Что предпримут динамовцы сегодня, мы, конечно, увидим, но очень надеемся на игру красивую, с почетным счетом для нас. Вергеенко возлагает надежду на укрепление защиты Орловским, а впереди, скорее всего, появится залечивший травму Путило, для которого есть прекрасный повод заявить о себе не просто как о подающем надежды вундеркинде, а как о ключевом игроке основного состава. Вероятно, выйдет на поле и Шуканов. Во всяком случае вся труппа Вергеенко, все солисты, примы и рядовые исполнители тренерских установок готовы к выходу. Никто, кроме них, ничего сделать не сможет, но сами они, черт побери, конечно же, в состоянии преподать гостям хорошую взбучку! На это и будем надеяться.

Несколько штрихов к матчу. Побывавший в Минске разведчик из "Вердера", менеджер клуба, улетел домой в мрачном настроении. Во-первых, его напугали очереди машин у пустых бензоколонок — опытный немец оценил глубину и масштабы нашего энергокризиса. Во-вторых, продегустировав предложенную ему пищу, он заявил, что игроки подобное есть никогда не станут, поэтому в Минск прибудет повар команды и контейнер с продуктами. Об остальном разведчик предпочел отмолчаться...

Однако мне удалось выяснить, что главный вывод, который сделал герр Лемке, — игра в Минске вряд ли станет легким вояжем для "Вердера", хотя многие в Европе уже поторопились "вывести" команду Бремена в следующий круг.

Словом, сегодня в Минске — большой футбольный вечер. Правда, вполне может случиться так, что трибуны "Динамо" будут пустыми. Болельщиков отпугнули огромные цены — от 4 до 15 тысяч рублей. К нам в редакцию пришла целая делегация студентов БГУ, любителей футбола. К сожалению, ничем ребятам мы помочь не смогли, потому что, как выяснилось, столь высокие цены — отнюдь не прихоть и уж тем более не алчность руководства футбольного клуба. Дело в том, что цены на подобные матчи устанавливаются в штаб-квартире УЕФА и "привязаны" к курсам СКВ. Администрации стадионов и клубов под угрозой финансовых санкций не имеют права понизить шкалу цен. Что ж, пусть и этот повод подстегивает нас к тому, чтобы все мы стали лучше работать и соответствовать наконец нормальным среднеевропейским стандартам, при которых цена футбольного билета никого не пугает. Ни студента, ни пенсионера. А пока многим, к сожалению, придется воспользоваться бесплатным домашним телеэкраном.

